# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 6 (700)**
**Чэрвень 2024 г.**


# Беларускі пікнік у Сэнтрал-Парку, прысьвечаны Дню салідарнасьці з палітвязьнямі

У нядзелю, 19 траўня, у Сэнтрал-Парку на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшоў беларускі пікнік, які быў ладжаны Асацыяцыяй АБА і віртуальнай групай "Беларусы ЗША – Разам лягчэй" з удзелам Згуртаваньня "Пагоня". Імпрэза была прысьвечаная Дню салідарнасьці з палітзьняволенымі ў Беларусі, які адзначаўся празь некалькі дзён, 21 траўня.

На лузе Sheeps Meadow у Сэнтрал-Парку, дзе звычайна людзі зьбіраюцца на пікнікі, спатканьні й сустрэчы на вольным паветры, сыйшліся беларусы Нью-Ёрку і ваколіцаў, каб прабавіць час сярод суайчыньнікаў, абмяняцца апошнімі навінамі, і – выказаць сваю салідарнасьць з палітвязнямі ў Беларусі.

Сустрэчу адкрыла прэзыдэнтка Асацыяцыі Беларусаў Амэрыкі (АБА) сп-ня Ганна Шарко. Яна прывітала ўсіх прысутных і падкрэсьліла, што кожная сустрэча землякоў мусіць быць нагодаю для знаёмстваў, абмену інфармацыяй для надзённых жыцьцёвых і духовых патрэбаў. "Калі ласка, знаёмцеся, навязвайце кантакты, пашырайце весткі пра нашыя імпрэзы". Сп-ня Шарко адзначыла, што сёнешні беларускі пікнік, прымеркаваны да Дня салідарнасьці з палітзьняволенымі ў Беларусі. Гэты дзень быў вызначаны ў сувязі з трагічнай сьмерцю ў зьняволеньні ў Шклоўскай калёніі беларускага палітвязьня Вітольда Ашурка родам з Лідчыны, сябра Партыі БНФ, каардынатара Руху "За Свабоду", які стаў першым палітычным зьняволеным, што загінуў у лукашэнкаўскім гулагу. Нажаль, гэтая сьмерць была неапошняй, і затым страцілі жыцьцё яшчэ такія змагарныя асобы як мастак Алесь Пушкін, блёгер Мікалай Клімовіч, грамадзкія атывісты Ігар Леднік, Аляксандар Кулініч і Вадзім Храсько, што зрабіў некалькі ахвяраваньняў на дапамогу ахвярам рэпрэсіяў у Беларусі.

Цяпер за кратамі ў Беларусі знаходзяцца каля паўтары тысячы палітзьняволеных. Яшчэ каля тысячы людзей былі арыштавананыя цягам 5 месяцаў гэтага году, наболей – у выніку масавага рэйду КГБ за прадуктовую дапамогу ад ініцыятывы INeedHelpBY. Рэжымам крыміналізуецца любая праява дапамогі й салідарнасьці зь людзямі, якія выказваюць пратэст супраць дыктатуры Лукашэнкі. У выніку рэпрэсіяў рознага кшталту ў Беларусі пасьля 2020 году пацярпелі каля 150 тысяч чалавек, нялічаныя сотні тысяч беларусаў былі вымушаныя зьехаць з краіны ў неплянаваную эміграцыю. За кратамі знаходзіцца кіраўнік праваабарончай арганізацыі "Вясна", ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру за 2022 год Алесь Бяляцкі. Шэраг апазы-

*заканчэньне на бачыне 2*



# Як зьняць палітычныя шоры

Ведаць задумы ўрада – значыць дасягнуць найбольшай перавагі. Якім яшчэ большым актывам мы можам валодаць, чым веданьне характару і працэсаў мысленьня крымінальнай палітыкі?

Вывучэньне матываў і мэтадаў дасягненьня палітычнай улады праз падман і высновы, да якіх мы прыходзім, гарантуюць, што мы можам ведаць іх думкі і прадказваць іх паводзіны.

Што ж яшчэ на трэба мець для дасягненьня свабоды?

Мы ня можам быць шчасьлівымі, бясконца марнуючы свой час высьвятляючы, як выжыць пад прыгнётам уладаў. Бо якая карысьць нам назапашваць актывы, аддаючы сваю сьвядомасьць пачвары? Калі пачвара валодае нашай сьвядомасьцю, яна валодае і нашым багацьцем.

Як толькі мы распазнаем іх выказваньні, думкі і іх кодавыя словы і фразы, мы зможам распазнаць махлярства ўсёй сыстэмы. Мы тады можам нэйтралізаваць прапаганду, якая душыць свабоду чалавека.

Пастаянна праводзяцца слуханьні па пошуку вінаватых. Потым усе забываюцца да наступнага паседжаньня, наступнага “здарэньня”. Такая гульня палітыкаў. Для нас ня важна ведаць, хто гэта зрабіў. Важней ведаць, што яны робяць, і мараль, якая іх матывуе.

Нам ня трэба ідэнтыфікаваць дэталі палітычнага злачынства або яго доказы. Разуменьне маральнасьці гангстэраў – усё, што нам трэба. Як толькі іх падман будзе выкрыты, то іх абарона, іх прыкрыцьцё і іх прытворства зьнікаюць.

Што можа найлепш забясьпечыць чалавечую свабоду, чым здольнасць распазнаваць махлярства? Мы можам сканцэнтраваць увагу без усёй блытаніны імёнаў, датаў і месцаў палітычных і сацыяльных злачынстваў і ніколі ў жыцьці ня зьвязваць усё разам у агульную карціну. Гэта ня толькі нейкая адна палітычная партыя і ня толькі нейкі адзін палітычны кандыдат. Гэта мараль усіх іх і амэрыканскага народу, які паверыў у іхні падман.

Самыя небясьпечныя праціўнікі ўладных структураў – тыя, хто ведае палітычную мараль і выкрывае палітычныя выказваньні, здымае маскіроўку.

Асабліва цяпер, у год выбараў, з усіх наяўных доказаў мы павінны зрабіць выснову, што палітыкі ня могуць адрозьнівацца і ня могуць мець іншую мараль, чым сыстэма, у якой яны працуюць, і ў той жа час выжываць як палітыкі. Таму яны амаль усе аднолькавыя. Сыстэма хутка зьнішчае палітыка, які мае адкрыта супрацьлеглую ёй мараль і філязофію.

***Б. Л.***

## Беларускі пікнік

***заканчэньне з бачыны 1***

цыйных палітычных дзеячаў як Мікола Статкевіч, Марыя Калесьнікава, Віктар Бабарыка, што знаходзяцца за кратамі, як і А. Бяляцкі, утрымліваюцца ў рэжыме “інкамунікада”, у інфармацыйнай ізаляцыі ад сваякоў, сяброў і ўсяго грамадзтва. Мы мусім даводзіць да грамадзкасьці краінаў, у якіх мы жывем, у тым ліку і тут, у Амэрыцы, да стану правоў чалавека ў Беларусі й пакутах палітзьняволеных, да якіх ужываюцца фізычныя і псыхалягічныя катаваньні, адзіночнае зьняволеньне, адвольнае зьмяшчэньне ў карцары-шызо. Актывістцы Паліне Шарэнда-Панасюк ужо некалькі разоў адвольна працягвалі тэрмін зьняволеньня пад надуманымі абвінавачваньнямі. Жадаючыя больш даведацца пра сытуацыю з палітзьняволенымі ў Беларусі могуць выйсьці на сайце “Вясны”: https://spring96.org/be/news/112185



Затым прысутныя ўшанавалі хвілінай цішы памяць загінуўшых за вольную дэмакратычную Беларусь.

Сп-ня Ганна Шарко прапапанавала падумаць, як пераўтварыць траўмы й боль у штосьці пазытыўнае – і заклікала напісаць лісты й паштоўкі палітзьняволеным у Беларусі. Для гэтага былі распаўсюджаныя выдрукі з інфармацыяй, дзе можна знайсьці імёны палітзьняволеных, іхныя адрасы і ўзоры тэкстаў, а таксама выбар паштовак для падтрымкі палітзьняволеных. Многія прысутныя з задавальненем узяліся за гэтую працу. Дзеля спрыяньня знаёмствам усім прысутным было прапанавана падзяліцца на групы па 5 чалавек, у якіх яны мелі мажлівасьць пазнаёміцца, расказаць пра сябе і даведацца, адкуль паходзяць і чым цяпер займаюцца іхныя землякі, а таксама падзяліцца праблемамі й дасягненьнямі на бягучы момант. Сп-ня Шарко таксама паінфармавала пра збор сродкаў на дзіцячы летнік для дзяцей палітзьняволеных, а таксама пра зборы на іншыя годныя справы.

Таксама ўдзельнікам імпрэзы былі прапанаваныя розныя гульні, як сацыяльныя й інтэлектуальныя, так і гульні зь мячом як валейбол. Шмат хто прынёс свае прысмакі, каб паесьці самым і прапанаваць прысутным. На сустрэчы луналі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг і таксама дзяржаўны сьцяг Вялікага Княства Літоўскага – сымболь срэбная “Пагоня” на чырвоным тле. Імпрэза сабрала вялікую колькасьць удзельнікаў, і шмат хто зь іх выказваў падзяку за нагоду сустрэцца і прабавіць час з землякамі, а таксама каб у нейкі спосаб спрычыніцца да аказання дапамогі суайчыньнікам, што апынуліся за кратамі. Надвор’е спрыяла сустрэчы, дзень выдаўся цудоўны.

***Віталь ЗАЙКА***

# Цікавая манаграфія пра Другую сусьветную вайну і яе наступствы для Беларусі

*Franziska Exeler.* **Ghosts of War: Nazi Occupation and Its Aftermath in Soviet Belarus.** Cornell University Press, 2022. (Францыска Эксэлер, “Здані вайны: Нацыстоўская акупацыя і яе наступствы ў савецкай Беларусі”. Выдавецтва Карнэльскага ўнівэрсытэту, 2022 г.)

Ва ўмовах, калі перамога над фашызмам у Другой сусьветнай вайне пераўтвораная кіруючымі рэжымамі ў Беларусі й Расеі як сьвятасны наратыў, праз які ажыцьцяўляецца мабілізацыя насельніцтва на дзеяньні, што цалкам падпадаюць пад вызначэньне фашызму, кожны незалежны досьлед гісторыі Другой сусьветнай вайны ў сёнешняй Беларусі, што ў якісьці спосаб, у самай нязначнай ступені, адхіляўся б ад тога сьвятаснага заідэалягізаванага наратыву, падаецца проста немажлівым. Любы аб’ектыўны разгляд дзеяньняў савецкіх уладаў, савецкіх войскаў і савецкіх партызанаў аўтаматычна выклікае абвінавачаньні ў “нацызме” і таксама можа выклікаць крымінальны перасьлед па новых адмыслова складзеных артыкулах у крымінальным кодэксе.




Тым большую каштоўнасьць у сьвятле ўсяго вышэйадначанага ўяўляе манаграфія замежніцы, маладой нямецкай навукоўкі Францыскі Эксэлер пра Другую сусьветную вайну ў Беларусі. Кніга, напісаная з пазыцыі дасьледчыцы, што хацела б зразумець, як вайна прыйшла ў Беларусь, адбываўся Галакаўст – працэс вынішчэньня гэбраяў, і як жылі й выжывалі людзі і падчас, і пасьля вайсковых і партызанскіх дзеяньняў, што зрабілі Беларусь хіба самым спустошаным абшарам у сьвеце. У цяперашні пэрыяд, калі Беларусь, нягледзячы на ўздым 2020 году, кампанію уладаў РБ па інфільтрацыі нелегальных імігрантаў ў памежныя краіны і падтрымку агрэсіі Пуціна супраць Украіны, застаецца загадкавай тэрыторыяй у цэнтры Эўропы, што так і не зьявілася на радарах палітыкаў і аналітыкаў – кніга Ф. Эксэлер зьяўляецца доўгачаканай працай, якая дапамагла б зацікаўленым экспэртам больш даведацца пра Беларусь і пра прычыны яе цяперашняга аўтарытарнага кіраваньня.

Мінулае ў Беларусі, як той казаў, не зусім мінулае. У сваёй кнізе аўтарка дае кароткі, але досыць кампэтэнтны і шырокі агляд гісторыі Беларусі да пачатку Другой сусьветнай вайны, асабліва пасьля бальшавіцкага перакулу, і да часу “ўзьяднаньня” беларускіх земляў, якія па завядзёнцы дасьледчыкаў лічацца часткай усходнеэўрапэйскага “памежжа”. Аўтарка правяла істотны час – некалькі год, у архівах, у тым ліку ў архівах Рэспублікі Беларусь, і па ўнікальных матэрыялах здолела напісаць працу, у якой дае апісаньне і аналіз хады вайсковых і партызанскіх дзеяньняў у Беларусі праз лёсы канкрэтных людзей. Аўтарка абрала для свайго аповеду восем маладых жыхароў Беларусі, сярод якіх ёсьць беларусы і гэбраі, і прасачыла, як розныя аспэкты вайны й паваенныя здарэньні паўплывалі на іхны лёс, і на іхным прыкладзе распавяла пра зьявы, зь якімі сутыкнуліся жыхары Беларусі ў ваенны й паваенны пэрыяд.

Праца насычаная статыстычнымі зьвесткамі, і асаблівую ўвагу дасьледчыцы прыцягваюць ацэнкі чалавечых стратаў у Беларусі падчас вайны. Як вядома, цяперашнія афіцыйныя дадзеныя пра колькасьць загінуўшых у Беларусі абвяшчаюць, што загінуў кожны трэці жыхар Беларусі. Гэта падвышэньне віктымізацыі беларусаў рэжым Лукашэнкі скарыстоўвае як сродак, з аднаго боку, для абгрунтаваньня дэлегетымізацыі й перасьледу беларускай апазыцыі, і з другога – як спробу гамаваць крытыку рэжыму на міжнароднай арэне, маўляў, як могуць былыя акупанты крытыкаваць краіну, што панесла такія ахвяры.

Уражвае аб’ём і разнастайнасьць матэрыялаў і крыніцаў, што былі скарыстаныя аўтаркай манаграфіі, аднак пры гэтым трэба адзначыць, што перавага была амаль выключна аддадзеная савецкім і пра-савецкім крыніцам, і хоць прыведзеныя пэўныя крыніцы гэбрайскія й польскія, у працы амаль адсутныя сьведчаньні беларусаў, што выступалі на баку немцаў, хаця пасьля вайны на эміграцыі выйшаў цэлы корпус успамінаў і дакумэнтаў, што прадстаўляюць уласна беларускі погляду на пэрыяд вайны.

Наступным вялікім пытаньнем для аўтара гэтых радкоў ёсьць канцэпт і сэмантыка калябарацыі. Наколькі людзі, якім сілаю было накінутае грамадзянства чужой варожай краіны, што акупавала іхны край, пасуе найменьне “калябарантаў”, калі яны паставілі на іншую чужую варожую сілу, якую палічылі напачатку вайны меншым злом, а пасьля лёгікай і злой воляй вайны былі ўцягнутыя ў справы, якіх ужо не маглі пазбыцца. І таму слушным зьяўляецца намінак аўтаркі (ст. 239), што пасьляваенныя працэсы над “здраднікамі” былі спосабам замацаваньня каляніяльнай улады, якая існавала перад пачаткам вайны. У гэтым праглядае паралель з краінамі Азіі, дзе нацыянальна-вызвольныя рухі паставілі на Японію як альянта ў справе вызваленьня з-пад улады эўрапэйскіх каляніяльных імпэрыяў. Як вядома, індус Субхаз Чандра Бос, бірманец Аун Сан й інданэзіец Сукарно сталі нацыянальнымі героямі сваіх краінаў менавіта за пошук шляхоў незалежнасьці сваіх народаў, а не за тое, што “лізалі боты”, як сказала б савецкая прапаганда, японскім акупантам. Безумоўна, разуменьне калябарацыі ў выпадках Францыі й Нарвэгіі падчас вайны істотна адрозьніваецца ад сутнасьці супрацы зь немцамі незалежніцкіх сілаў у Беларусі – сілаў беларускіх, і таксама польскіх і ўкраінскіх.

У гэтай сувязі варта падумаць аб прыкладаньні сыстэмы каардынатаў і тэлеалёгіі, што факусуюцца менавіта на Беларусі, і зьмяшчаюць цэнтар каардынатаў разгляду падзеяў менавіта ў Беларусь, а не ў нейкае іншае месца, як, скажам, Маскву. У такім выпадку трэба пагадзіцца, што ўтылізацыя савецкіх і пост-савецкіх падыходаў да ключавых пытаньняў Другой сусьветнай вайны ў Беларусі зьяўляецца для беларусаў абсалютна нелягічнай, недарэчнай і нягеглай.

Таксама трэба пераадолець табу на абмеркаваньне шэрагу аспэктаў вайны ў Беларусі. Сярод іх трэба вызначыць, што Саветы карысталі інструмэнты тэрору ў выглядзе савецкага партызанскага руху і помсты за “здраду”, каб не дапусьціць паразуменьня і супрацы мясцовага насельніцтва зь нямецкімі акупацыйнымі сіламі, якія накрэсьліваліся ад пачатку вайны да сярэдзіны 1942 году, і больш пасьпяхова канкураваць зь немцамі за ляяльнасьць мясцовага насельніцтва, атрымліваць ад яго больш актыўную мабілізацыйную і матэрыяльную падтрымку. Аўтар апісвае жыцьцё пад нямецкай акупацыяй як балянсаваньне паміж патрабаваньнямі ад нямецкіх уладаў і ад савецкіх партызанаў, і ў выніку, для таго каб выжыць, людзі былі змушаныя рабіць нялёгкі выбар, які пасьля вызначаў і лёсы, і пытаньні жыцьця і сьмерці.

Сыстэмныя і сыстэматычныя правакацыі савецкіх партызанаў у адносінах да немцаў, часта праз найбольш экстры-

*заканчэньне на бачыне 4*

## Цікавая манаграфія пра 2-ю Сусьв. в.

*заканчэньне з бач. 3*

мальныя і жорсткія мэтады, выклікалі чаканую Саветамі рэакцыю ў выглядзе гвалтоўных масавых рэпрэсіяў супраць мірнага насельніцтва, асабліва пачынаючы з другой паловы 1942 году. Дасьледчыца ставіць пад сумліў савецкі канцэпт "усенароднай вайны супраць нямецкіх акупантаў" і дабрахвотную мабілізацыю на баку Саветаў. Яна заўважае, што на савецкіх партызанах ляжыць частка адказнасьці за страту чалавечых жыцьцяў у Беларусі падчас вайны. Як вядома, брутальныя чыны савецкай партызанкі, яе мэтадалёгія былі пазьней пераняťтыя большасьцю партызанскіх і тэрарыстычных рухаў сьвету, ад Алжыру і Кеніі да Іраку і Аўганістану. У гэтай сувязі слушным ёсьць сьцьверджаньне Эксэлер пра істотны рост партызанскага руху ў Беларусі ў другой палове 1942 году, але прычыны росту застаюцца неразгледжанымі да канца (ст. 10).

Адным незаўважаным у кнізе аспэктам ёсьць ксэнафобія як частка расейскага і савецкага этасу, якую Саветы актыўна прышчаплялі беларусам і якая была скарыстаная як моцны сродак мабілізацыі грамадства на аліенізацыю немцаў і ўсяго зь імі зьвязанага, і каб узмоцніць уласнае непадзельнае кіраваньне лёсамі падуладных народаў. Ксэнафобія дасюль актыўна выкарыстоўваецца рэжымамі Лукашэнкі й Пуціна на мабілізацыю насельніцтва, апэлюючы да самых базісных інстынктаў праз заклікі, што зводзяцца да выгуку "нашых б'юць".

Савецкая і пост-савецкая гісторыяграфія, усяляк падкрэсьліваючы злавесную забойчую эфэктоўнасьць і кампэтэнтнасьць немцаў, цынічную пагарду чалавечым жыцьцём, што безумоўна мела месца, абыходзіла ўвагаю частае легкадумнае стаўленьне да чалавечага жыцьця з боку Саветаў. Як вядома, Саветы напоўніцу скарысталі імглістыя элемэнты плянаванага генацыду ў накідах, што вядомыя як "Генэральны Плян Ост", і якія актыўна выкарыстоўвае рэжым Лукашэнкі падчас расьсьледваньня цяпер, праз амаль 80 год пасьля сканчэньня вайны, генацыду супраць беларусаў. На ўвазе маецца, што мэтаю немцаў было зьнішчэньне й паняволеньне ўсіх славянаў, і таму ўсе, хто супрацоўнічалі зь немцамі, ёсьць злавеснымі монстрамі й крыважэрнымі здраднікамі, што дзеілі супраць свайго ўласнага народу, а не людзямі, што сталі ахвярамі абставінаў і нялёгкага выбару – і гэта, дарэчы, было галоўным абгрунтаваньнем пасьляваенных пакараньняў тых, хто супрацоўнічаў зь немцамі. Разам з тым, як падкрэсьлівае Ф. Эксэлер, матывацыі й успрыняцьце пасьляваенных пакараньняў "здраднікаў" і вайсковых злачынцаў ва ўладаў, што вярнуліся ў Беларусь, і ў мясцовага жыхарства значна разыходзіліся.

Што тычыцца дэталёвага разгляду падзеяў вайны, дык цяжка чакаць згадкі пра абсалютна усе аспэкты й усіх асобаў на разляданым абшары, але, здаецца, што поўнае ігнараваньне асобы Вільгельма Кубэ, генэральнага камісара часткі акупаванай Беларусі, і ягонага неардынарнага кіраваньня падуладным яму абшарам у параўнаньні з іншымі сатрапамі акупаваных нацыстамі тэрыторыяў, ёсьць даволі істотнай хібай. Таксама кідаюцца ў вочы драбнейшыя рэчы, як, напрыклад, згадка ў тэксьце кнігі пра бургамістра горада Барысава Станіслава Станкевіча, на якую потым няма ніякай спасылкі ў індэксе. Канешне, гэтыя рэчы ўсё ж не ўплываюць на высокую якасьць разгляданай манаграфіі.

Адмысловую каштоўнасьць уяўляюць статыстычныя ацэнкі, што выводзіць аўтарка ў кнізе і вынесеным нават адмыслова разьдзеле "Зацемка пра страты ў час вайны". У той зацемцы абгрунтавана, са спасылкамі на крыніцы й аўтарытэтныя апініі, падаецца статыстыка чалавечых стратаў у Беларусі ў часы вайны, і таксама ў перадваенны й пасьляваенны час. Уяўляецца патрэбным прывесьці зводны пералік гэтых статыстычных ацэнак ніжэй.

Падчас Другой сусьветнай вайны Беларусь у межах 1945 году (безь Беласточчыны) страціла 1.7—2.1 млн. чалавек, або 19—22% насельніцтва (кожны 5-ты).

Каля 700 тысяч жыхароў Беларусі загінула ў Чырвонай арміі й у палоне. На беларускай тэрыторыі загінула 700-800 тысяч савецкіх палонных, большасьць зь іх – небеларусы. Было зьнішчана 500-670 тысяч гэбраяў. Немцы забілі 345 тысяч чалавек негэбрайскага цывільнага насельніцтва.

У Нямеччыну і акупаваную ёю Эўропу былі вывезеныя і выехалі дабраахвотна 380 тысяч чалавек. На пачатак 1946 году 215 тысяч зь іх, а таксама 150 тысяч былых ваеннапалонных, вярнуліся ў Беларусь.

Каля 700 тысяч жыхароў Беларусі эвакуяваліся ў 1941 годзе ўглыб Савецкага Саюзу.

У партызанскім руху ў Беларусі брала ўдзел 360 491 чалавек, зь іх 40 тысяч былыя чырвонармейцы, каля 30 тысяч былыя паліцаі й супрацоўнікі нямецкай адміністрацыі. 37 378 чалавек загінулі ў партызанах. Ад рук партызанаў загінулі 17 431 паліцаяў, іншых "здраднікаў" ды іхных сваякоў. У арганізаванай немцамі паліцыі служылі каля 60 тысяч чалавек, і 20 тысяч былі супрацоўнкамі грамадзянскай адміністрацыі.

На сьнежань 1946 году былі забітыя 3 035 сяброў антысавецкіх узброеных групаў, ад іхных рук загінулі 1 206 чалавек. У польскай Арміі Краёвай у Беларусі было каля 36 тысяч камбатантаў і цывільных дапаможцаў.

Па дамовах аб абмене насельніцтва ў Беларусь прыехала 28 тысяч чалавек з Польшчы (пераважна зь Беласточчыны), у Польшчу выехала каля 240 тысяч чалавек, і яшчэ 305 тысячам, пераважна сялянам, было адмоўлена ў выезьдзе як "апалячаным беларусам".

Ахвяры бальшавіцкага тэрору паміж 1917 і 1939 г.г. склалі 331 тысячу чалавек. З Заходняй Беларусі перад вайной было дэпартавана 125 тысяч чалавек, у бальшыні гэта палякі й гэбраі. Арыштаваныя або забітыя былі 6% насельніцтва даваеннай БССР і 3.7% насельніцтва Заходняй Беларусі. На канец 1944 году ў Беларусі было завэрбавана 8 тысяч інфарматараў НКВД, на канец 1947 году гэтая лічба дасягнула 20 тысяч.

Акрамя гэтых зьвестак, цікаўны чытач знойдзе значную колькасьць іншых статыстычных дадзеных з гісторыі Беларусі.

Кніга "Здані вайны" ёсьць істотным дадаткам да разуменьня Другой сусьветнай вайны і яе наступстваў у Беларусі і цалкам вартая перакладу на беларускую мову для пашырэньня доступу да яе. Ва ўмовах цэнзураваньня дзяржавай досьледаў па гісторыі, выхад непадцэнзурнага дасьледваньня ёсьць важнай падзеяй для зацікаўленых гісторыяй сваёй краіны.

***Віталь ЗАЙКА***

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня" *Viktar Yedzinovich.***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**Н. Васюк ................70**
**К. Пляўга ................70**

**Шчыры дзякуй!**

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**Н. Васюк ................30**
**К. Пляўга ................30**

**Усім шчыры дзякуй!**